ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ
ВАЕННАЙ АКРУГІ



# БЮЛЕТЭНЬ

## № 1

СТУДЗЕНЬ-ЖНІВЕНЬ

1934 г.



ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ
ВАЕННАЙ АКРУГІ




# БЮЛЕТЭНЬ
## № 1

СТУДЗЕНЬ—ЖНІВЕНЬ
1934 г.



# І. ЗАДАЧЫ АБАРОНЫ. ПАРТПАЛІТРАБОТА У РСЧА

**ВАРАШЫЛАЎ К. Е. Артыкулы і прамовы.** (Зборнік). Стар. 298. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 3 р., пер. 75 к. (у каленкору).

**ВОРОШЫЛОВ К. Е.** Статьи и речи (Сборник). (На рускай мове). Стар. 298. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 3 р. 75 к., пер. 75 к. (у каленкору).

У зборнік увайшлі артыкулы і прамовы т. К. Е. Варашылава, пачынаючы з студзеня 1924 г. і канчаючы апошняй прамовай яго на парадзе ў Маскве ў дзень 1 Мая 1934 г. У змест зборніка ўваходзяць матэрыялы, у якіх тав. Варашылаў прама або ўскосна закранае пытанні ўмацавання абароны краіны—РСЧА: пытанні вайны і ваеннага майстэрства ў маркісіцка-ленінскім іх асвятленні, пытанні арганізацыі ўзброеных сіл пролетарыята, практычныя пытанні штодзённай работы ў гэтым кірунку ўсёй нашай партыі і пролетарыята і т. д. Не прэтэндуючы, па свайму зместу, на поўны збор твораў К. Е. Варашылава, зборнік павінен з'явіцца настольнай кнігай, у першую чаргу,усяго касцяка ўзброеных сіл начсаставу РСЧА. Не меншае значэнне творы правадыра прадстаўляюць і для ўсёй нашай партыі і для ўсіх працоўных наогул.

**ПАДСОЦКІ К. І. XVII з'езд ВКП(б) і абарона СССР.** Стар 68., тыр. 5.000. 1934 г. ц. 45 к.

Змест кніжкі складзены, у асноўным, па матэрыялах XVII з'езда ВКП(б). Разлічана на асабовы састаў Чырвонай арміі, на тсаавіяхімаўцаў і на шырокія кругі партыйнага і совецкага актыву.

**ГУСЕЎ П. 16 год на варце Кастрычніка.** Стар. 92. тыр. 10.000 1934 г. ц. 90 к.

У З м е с ц е: Чырвоная армія—армія міру. Чырвоная армія—часавы Кастрычніка. ВКП(б)—арганізатар і правадыр Чырвонай арміі. Абараняць будаўніцтва соцыялізма. Канец стабілізацыі капіталізма. Умацаванне міжнароднага стану СССР. Разлічана на шырокі круг чытачоў.

**Урокі чысткі партыйных арганізацый РСЧА** (першай чаргі 1933 г.) Стар. 92. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 50 к.

Прыклады работы партарганізацый, палітапарата і комсамола па падрыхтоўцы і правядзенню чысткі. На вопыце праведзенай чысткі (першай чаргі) ў кніжцы паказана, як трэба арганізаваць падрыхтоўку і правядзенне чысткі (другой чаргі). Напісана работнікамі ПУРСЧА тт. Абрамавым Л., Іарданскім П., Піваваравым М.. Стоклісам В., Чэрнелеўскім П., і Шубіным І. пад агульнай рэдакцыяй І. Шубіна.

**Інструкцыя арганізацыям ВКП(б) у Чырвонай арміі.** (Зацверджана ЦК ВКП(б) 29 сакавіка 1934 г.). Стар. 46. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 15 к.

**ЭПШТЭЙН Л. Як працаваць комуністу ў палявых умовах.** Стар. 33. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 40 к. (на беларускай мове).

**ЭПШТЕЙН Л. Как работать коммунисту в полевых условиях.** Стар. 34. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 40 к.

„Безупынна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над асваеннем асноў марксізма—ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і раз'ясняць іх беспартыйным масам",—з гэтымі палажэннямі звязаны змест данай брашуры.

Кніжка дае метадычныя ўказанні і рад канкрэтных прыкладаў па рабоце ва ўсіх варыянтах вучэнняў. Разлічана на шырокі актыў чытачоў.

**БРОДСКІ Р. Б. МТПП і масавая работа.** (методыка тактычнай падрыхтоўкі пяхоты). (Пераклад з рускага выдання). Стар. 112. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 1 р. 50 к.

Вопыт партпалітработы па забеспячэнню МТПП. Кніга напісана на фактычным матэрыяле. Разлічана на шырокі актыў работнікаў РСЧА і грамадзянскіх арганізацый, якія праводзяць масавую работу.

**Тэорыя вайны і ваеннага майстэрства**

**КЛАЎЗЕВІЦ. Аб вайне, т. III.** Арк. 14. тыр. 2.000. (Друкуецца).

**Масавая літаратура.**

**ІВАНОЎ І. Чырвонаармейцу аб рашэннях чэрвеньскага пленума** ЦК ВКП(б). Стар. 52. тыр. 2.000. 1934 г. ц. 35 кап.

**Иванов. Красноармейцу о решениях июньского пленума ЦК ВКП(б)** на рус. мове—стр. 52, тираж 5000 экз., цена 35 коп.

**КАЛЕСНІКАЎ В., ЛЕОНЦЬЕЎ Б. і ПАНАМАРЭНКА Г. Калгас—крэпасць абароны.** Стар. 72. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 45 к.

Аб каштоўным вопыце абароннай работы тсаавіяхімаўскай ячэйкі Ключэўскага калгаса імя „12-ці годдзя Кастрычніка". (Бузулукскага раёна на Сярэдняй Волзе). Гэты вопыт заслугоўвае сур'ёзнай увагі з боку нізавога тсаавіяхімаўскага актыву нашай калгаснай вёскі. (Распрадана).

**РУБЦОВ П. и АБРАМОВ Л. Красноармейцу об общевойсковых учениях.** (на рускай мове). Стар. 72. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 60 к.

Кніжка рассказвае аб значэнні вучобы ў баявой падрыхтоўцы войск і аб асноўных абавязках чырвонаармейца ў баі і ў рабоце сярод насельніцтва. Кніжка дае байцу агульнае прадстаўленне аб сучасным баі, дапамагаючы яму свядома ўдзельнічаць у баявых дзействах на вучэннях. Прыклады дзейства адзіночнага байца і дробных падраздзяленняў баец можа знайсці ў агульным падручніку „Васіленка—Баявая служба чырвонаармейца", а больш дасканалыя звесткі аб тэхнічных сродках бою—у кнізе „Ваенная тэхніка". (Распрадана).

**СПУТНІК красноармейца-отпускника по работе в деревне** (Составил Б. Лажечников). (На рускай мове). Стар. 196, тыр. 6.500. 1934 г. ц. 1 р. 50 к.

Зборнік важнейшых рашэнняў партыі і ўраду аб соцыялістычнай перабудове вёскі. У зборнік уключаны рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), закон аб пастаўках дзяржаве ўсіх важнейшых відаў сельскагаспадарчай прадукцыі і інш. Зборнік з'явіцца важнейшым дапаможнікам у рабоце не толькі для чырвонаармейца-адпускніка, але і для ўсяго шырокага актыву вёскі.

**ТЯПКІН А. Справа чырвонаармейскай чэсці.** Арк. 3. тыр. 5.000 цана 60 кап.

Кніга пабудавана на фактычным матэрыяле. Аўтар сцісла, проста расказвае аб тых поспехах, якіх дабіліся пераменнікі Паўночнага Каўказа

ў спаборніцтве з пераменнікамі Харкаўшчыны і Ніжняй Волгі, у барацьбе за большэвіцкія калгасы, за заможнае жыццё. Разлічана на масавага чытача.

**СУБОЦКІ М. і БЕРЛІН В. Чырвонаармейскі палітпадручнік.** (Зацверджана Камісіяй па падручніках пры РВС СССР). (З II рускага выдання). Стар. 256 (плюс 2 карты). тыр. 20.000. 1934 г. ц. 2 руб.

**СУБОЦКИЙ М. и БЕРЛИН В. Красноармейский политучебник.** (Утверждено комиссией по учебникам при РВС СССР). (По II изданию ГВИЗ'а). Стар. 256. тыр. 20.000. 1934 г. ц. 2 р.

Вучэбны дапаможнік для чырвонаармейцаў пераменнага саставу пры праходжанні імі палітзаняткаў як у час збораў, так і ў перыяд між зборамі. (Выданне скарочанае). (Распрадана).

---

## II. СТАТУТЫ, НАСТАЎЛЕННІ РСЧА (І ІНШ.)

**(Выданні афіцыйныя).**

**Баявы статут пяхоты РСЧА, ч. І.** (1928 г). (Праект). (Навукова-Статутны Аддзел Штаба РСЧА). (Выд. II). Стар. 174, тыр. 4.000. 1934 г. ц. 65 к. пер. 15 к.

**Баявы статут пяхоты РСЧА, ч. II.** 1927 г. (НКВ і МС). Стар. 284. (плюс 1 карта). тыр. 4.000. 1933 г. ц. 1 р. 15 к. пер. 20 к.

**Временный стрелковый устав РККА, ч. І.** Стрелковое оружие.— IV. Ружейные и ручные гранаты. (Штаб РККА.—Научно-Уставной Отдел). (На рускай мове). Стар. 80. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 40 к. (Распрадана).

**Кіраўніцтва па ваенна-інжынернай справе для ўсіх родаў войск РСЧА.** (1932 г.). (Управа Начальніка інжынераў РСЧА). (ІНЖ. 32). (Праект). Стар. 179. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 2 р. 75 к. (у пераплёце).

У змесце: Агульныя кіруючыя ўказанні. Інжынерныя работы. Зносіны. Пераправачна-маставыя і сапёрна-маскіровачныя работы. Падрыўная справа. Загароды. Ваенна-прыкладная электратэхніка і арганізацыя работ. Разлікі работ і важнейшых інжынерных інструментаў. Разлічана на ўвесь асабовы састаў РСЧА.

**Курс стрэльб. КС—32.** (По III изданию ГВИЗ'а). Арк. 19. тыр. 5000. (Друк.). (Руская мова).

**МТПП—33, ч. І.** (Методика тактической подготовки пехоты). (По II изданию ГВИЗ'а). (На рускай мове). Арк. 16. тыр. 10.000. (Друк.).

**МТПП—33, ч. II** (Методика тактической подготовки пехоты). (По II изданию ГВИЗ'а). (На рускай мове). Арк. 16. тыр. 10.000. (Друк.).

**Настаўленне артылерыі РСЧА.** Служба ўзводаў кіравання батарэй і дывізіёнаў. (1928 г.). (НКВ і МС). Стар. 104. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 60 к.

**Настаўленне па проціпаветранай абароне войск.** (1929). (НКВ і МС). Стар. 92. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 50 к.

**Наставление огневой подготовки артиллерии.** (На рускай мове). Арк. 18. тыр. 3.000. (Друк.).

**Настаўленне па стралковай справе РСЧА, ч. І.** Рэвальвер сістэмы „Наган" узору 1895 г. (1924 г.). (НКВ і МС). (Выд. II). Стар. 46. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 30 к.

**Настаўленне па стралковай справе РСЧА, ч. І.** Стралковая зброя. Вінтоўка ўзору 1891 г. (1923 г.) (НКВ і МС). Стар. 75. тыр. 7.000. 1934 г. ц. 50 к. (Распрадана).

**Наставление по стрелковому делу РККА, ч. І.** Стрелковое оружие. Винтовка образца 1891 г. (1923 г.). (НКВ и МД). (На рускай мове). Стар. 80. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 50 к. (Распрадана).

**Настаўленне па стралковай справе РСЧА, ч. І.** Стралковая зброя, II. Станкавы кулямёт сістэмы Максіма ўзору 1910. г. (1923). (НКВ і МС). Стар. 111. тыр. 4.000. 1934 г. ц. 75 к.

**Настаўленне па стралковай справе РСЧА, (НСС-І),** кніга І. Зброя стралковага ўзвода. (Праект). (Зацверджана Інспектарам пяхоты і стралковай падрыхтоўкі РСЧА т. Васіленка). Стар. 276, тыр. 5000. 1934 г. ц. 2 р. 75 к. пер. 75 к. (у каленкору).

**Наставление по стрелковому делу — НСД,** книга III. Оружие пулеметного взвода. (На рускай мове). Арк. 24. тыр. 5.000. (Друк.).

**Наставление по стрелковому делу. Личное оружие.** (На рускай мове). Арк. 6. тыр. 10 000 (Друк.).

**Умоўныя знакі ў ваеннай справе.** (Склаў В. Верычаў). Стар. 93. тыр. 7.000. 1934 г. ц. 75 к.

Табліцы асноўных умоўных знакаў, якія прымяняюцца пры рабоце з картай і планам і пры кіраванні тым або іншым страявым падраздзяленнем—з адпаведным тлумачэннем. Разлічана на малодшы, сярэдні, старшы і вышэйшы начсастаў кадру і запасу РСЧА, а таксама на студэнтаў ВНУ і ВТНУ, якія праходзяць пазавайскавую падрыхтоўку.

---

## III. ДА ПРЫЗЫВУ Ў РСЧА

**Іваноў І. і ГЛЕБЕЦ Н. Чарговы прызыў у РСЧА.** (Прызыў 1912 г. нараджэння). Стар. 64. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 40 к.

У змесце: Задачы прызыву. Падрыхтоўка да правядзення прызыву. Арганізацыя і кіраўніцтва прызывам. Роля і задачы грамадскіх арганізацый у правядзенні прызыву. Формы і метады масавай работы ў час прызыву.

**Закон аб абавязковай ваеннай службе і ільготы ваеннаслужачым, ваеннаабавязаным і іх сем'ям.** (Склаў Б. Лажэчнікаў). Стар. 130. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 1. 20 к.

Дапаможнік для работнікаў, якія вядуць работу па забеспячэнню і прадастаўленню ільгот ваеннаслужачым і іх сем'ям. Прызыўнік у гэтай кнізе знойдзе ўсе даныя, звязаныя з пытаннямі праходжання службы ў РСЧА і з палажэннямі аб ільготах. Чырвонаармейцам і начсаставу РСЧА яна дапаможа разабрацца ў ільготах, паложаных ім і іх сем'ям.

---

## IV. СТРАЛКОВЫ СПОРТ. СТРАЛКОВАЯ СПРАВА

**АЛЕКСЕЕЎ В. і ТОПАЛЕЎ М. Выдатны наводчых станкавага кулямёта.** Арк. 5. тыр. 3.000.

Метадычны дапаможнік па прапрацоўцы чатырох першых задач Курса Стрэльб – КС 32 г. з станковых кулямётаў. Кніжка правільна тлумачыць указанні, якія даюцца ў КС-32. Прызначана, у асноўным, для чырвонаармейцаў і малодшых камандзіраў.

**АРТАМОНАЎ М. і СУРАНАЎ П. Арганізацыя стралковага спорта.** (Даведачны дапаможнік для інструктароў і актывістаў). (Ухвалена Метадычнай Секцыяй ЦС ТСАавіяхіма). Стар. 56. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 55 к.

У кнізе ёсць усе неабходныя палажэнні, інструкцыя і кіруючыя ўказанні аб формах і метадах арганізацыі спартыўна-стралковай работы.

**АРТАМОНЎ М. Як навучыцца метка страляць.** Арк. 3. тыр. 3.000.

Арганізацыйная работа ТСАавіяхіма і комсамольскай арганізацыі па стралковай справе (па іспытах і здачы норм „Варашылаўскага стралка").

**ДУХОНІН Т. Падрыхтоўка кулямётчыка-зенітчыка вайсковых часцей.** Арк. 4¾. тыр. 3.000.

У кнізе прапрацоўваюцца тэхнічныя прыёмы зенітнай стральбы. Яна расшырае і раз'ясняе асноўныя палажэнні задачы № 8 КС-32. Прызначаецца для малодшых камандзіраў РСЧА і для кулямётных падраздзяленняў стралковых часцей, якія маюць на ўзбраенні зенітны прыцэл узору 1928 года.

**НІКАЛАЕЎ С. Аптычныя вінтовачныя і кулямётныя прыцэлы.** Стар. 76. тыр 3 000. 1934 г. ц. 95 к.

Будова, догляд і тэхніка абыходжання з аптычнымі вінтовачнымі і кулямётнымі прыцэламі. Асноўныя элементы оптыкі і галоўныя ўласцівасці аптычных прыцэлаў. Кніга разлічана на падрыхтаванага чытача.

**Прывядзенне стралковай зброі к дакладнаму бою.** (Арт. Упраўленне Штаба РСЧА). Арк. 2. тыр. 3.000. цана 40 к.

**Стралковая падрыхтоўка на вучэбных пунктах ТСАавіяхіма.** Арк. 4. тыр. 3 000.

Курс стрэльб ТСАавіяхіма. Пабудавана на аснове НСС РСЧА—КС-32, са змяненнямі і скарачэннямі, якія выкліканы асаблівасцямі падрыхтоўкі дапрызыўнікоў і пазавайскавікоў. Разлічана, у асноўным, на інструктароў і начальнікаў вучэбных пунктаў ТСА. Неабходны таксама і для начальнікаў баявой падрыхтоўкі.

**ХУДЗЯКОЎ Н. Малакалібравая вінтоўка ТОЗ № 7.** Стар. 58. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 30к.

1. Будова мелкакалібравай вінтоўкі ТОЗ № 7 і работа яе механізмаў. Правілы праверкі бою, чысткі, зберажэння і хавання вінтоўкі ТОЗ № 7.

Вінтоўка ТОЗ № 7 мае шырокае распаўсюджанне ў Чырвонай арміі ў грамадзянскіх стралковых гуртках, а таксама і сярод паляўнічых Савецкага Саюза.

У справе рамонту і выпраўлення малакалібравых вінтовак кніжка можа быць карысна і работнікам збройных майстэрняў,

**ШВАРТЭ. Сучасная ваенная тэхніка ч. 1.** Стралковая зброя. (Пераклад з рускага з дадаткамі і заўвагамі Ю. Шэйдэмана). Стар. 99. тыр. 3000. 1934 г. ц. 1 р. 20 к.

Кніга Швартэ, якая вышла ў Германіі ў 1927 г., апісвае дасягненні і стан ваеннай тэхнікі к канцу 1926 года. У кнігу ўнесены дапаўненні (па даных рускага выдання), якія паказваюць да некаторай ступені поўна стан ваеннай тэхнікі сёнешняга дня. (Зразумела, некаторыя прабелы будуць немінучы).

Кніга мае 2 аддзелы: 1—Лёгкая зброя пяхоты і баявыя прыпасы, II.—Цяжкая зброя. Не гледзячы на маючыяся недахопы, кніга прадстаўляе вялікую цікавасць. Яна карысна для начсастава ўсіх родаў войск РСЧА, для партыйнага актыву і для работнікаў ТСАавіяхіма.

## V. АРТЫЛЕРЫЯ

**АЛЕКСАНДЭР І КАПУСЦІН. Артылерыя.** (Падручнік для школ РСЧА). Арк. 18. тыр. 3.000. ц. 5 руб. у пераплёце.

**ГЕЙНРЫХС С. Дзействы асобнай гарматы.** (Выд. II перапрацаванае) Арк. 5,5. тыр. 3.000.

У кніжцы распрацавана тэма „Баявая работа камандзіра палкавой гарматы, дзействуючай асобна ад батарэі, будучы дададзенай да дробных пяхотных падраздзяленняў узводу і роты. Прызначаецца для малодшага камандзіра-артылерыста. Карысна і для сярэдняга камандна-палітычнага саставу пяхотных падраздзяленняў—узвода, роты, якім можа дапамагчы засвоіць правільнасць пастаноўкі агнявых-задач і тактычнага выкарыстоўвання прыданай палкавой гарматы. Кніжка прызначаецца таксама і для кампалітсаставу запасу, які працуе ў арганізацыях ТСАавіяхіма, і для ВНУ і ВТНУ, дзе праходзіцца вышэйшая дапрызыўная падрыхтоўка.

**КІРЫЛАЎ-ГУБЕЦКІ І. М. Сучасная артылерыя.** (Пад рэд. Н. В. Рагоўскага). Стар. 136. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 2 р. пер. 30 к.

З м е с ц е: Артылерыйская ўзбраенні сучасных армій і тыя тэндэнцыі, якія існуюць у гэтым пытанні ў перадавых капіталістычных краінах, (агульныя звесткі). Кніга разлічана на чытачоў, ужо знаёмых з асновамі будовы сучасных артылерыйскіх гармат, і дае адносна падрабязныя апісанні толькі навейшых удасканаленняў матэрыяльнай часткі як, напрыклад, універсальных гармат, паліганальных гармат, новых тыпаў знарадаў і т. д. Пытанні артылерыйскага ўзбраення танкаў, бронемашын, самалётаў і дырыжабляў, марскіх караблёў і берагавой абароны ў кнізе не асвятляюцца. Гэтыя пытанні разглядаюцца ў іншых выданнях. Кніга прызначана для шырокіх кругоў начсаставу РСЧА.

## VI. МЕХАНІЗАЦЫЯ І МАТАРЫЗАЦЫЯ РСЧА

**ГЕРАСІМАЎ І. Будова і прымяненне танкеткі.** (Выд. II). Стар. 47. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 25 к.

Апісанне разнавіднасцей танкеткі „Кардэн Лойд“. Баявыя, тэхнічныя і тактычныя ўласцівасці танкеткі.

**КОНШЫН. Автомобиль „Форд“ Модели А, АА, и ЗА.** (На рускай мове). Арк. 14. тыр. 5000. (Друкуецца).

Апісальны курс аўтамабіля „Форд"—мадэлей „А" „АА" і „ЗА". Падрабязнае ізлажэнне правіл разборкі, зборкі, догляду і збярэжэння аўтамабіля. Кніга багата ілюстравана рысункамі і схемамі ў тэксце. Разлічана на чытача, знаёмага з асновамі аўтамабільнай справы.

**ШВАНЕБАХ Н. Механізацыя і матырызацыя сучасных армій.** (Выд. II папраўленае). Арк. $3^1/_2$ л. тыр. 5 000, цана 80 кап.

Памятка для бяседчыкаў па агульных пытаннях механізацыі і матарызацыі армій. Багаты даведачны матэрыял на паказаную тэму.

## VII. ТАКТЫКА

**ГУРАЎ С. Чырвонаармейцу аб баявых дзействах зімой.** (Выд. II выпраўленае). Стар. 26. тыр. 5.000. 1933 г. ц. 35 к.

Узмесце: Баявыя дзействы зімой. Уплыў марозаў на зброю. Лыжная падрыхтоўка. Аб тых уласцівасцях, якія абавязан ведаць кожны баец Чырвонай арміі, каб перамагаць цяжкасці паходаў зімой і ўмела ўжываць сваю зброю ў баі.

**МАКСІМЕНКА П. Бой стралковага аддзялення ў прыкладах.** (З 26 рысункамі ў тэксце). Стар. 92. тыр. 4 000. 1933 г. ц. 1 р. 20к.

**ОГЛОБЛІН К. І КУШНАРЭНКА В. Дапаможнік па выведцы стралковых падраздзяленняў.** (Ухвалена Кіраўніцтвам баявой падрыхтоўкі РСЧА). Стар. 76. тыр. 4.000. 1934 г. ц. 80 к.

Узмесце: Прыёмы дзействаў дазора і аддзялення пры сустрэчы з праціўнікам рознай сілы. Прыёмы выведкі ўзмоцненым узводам у розных умовах баявой абстаноўкі. Падрыктоўка і правядзенне пошукаў для захвату палонных. Указанні аб захаванні ваеннай тайны. Змест дапаможніка павінен дапамагчы ва ўстараненні недахопаў, існуючых у правядзенні пяхотнай выведкі.

Разлічан на малодшы і сярэдні начсастаў, які звычайна будзе кіраваць пяхотнай выведкай. У дапаможніку таксама ўключаны ўказанні, неабходныя і для начальнікаў, якія арганізуюць пяхотную выведку, —для камандзіраў рот і батальёнаў.

**СМІРНОЎ С. А. Тактыка.** Падручнік для ваенных школ РСЧА. Курс агульны. (Пад рэд. Р. Цыфер). (Зацверджан Камісіяй па падручніках пры РВС СССР у якасці стабільнага падручніка для ваенных школ РСЧА). Стар. 207. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 2 р. пер. 30 к.

Складзен па праграмах сухапутных ваенных школ РСЧА ўсіх спецыяльнасцей. З'яўляецца ўступам пры праходжанні курсу тактыкі свайго роду войск.

**ЦЫФЕР Р. Тактыка пяхоты. Кіраванне стралковым узводам.** (Падручнік для пяхотных ваенных шхол РСЧА). (Пад рэд. М. Ткачова). (Зацверджан Камісіяй па падручніках пры РВС СССР у якасці падручніка для пяхотных ваеных школ РСЧА). Стар. 154. тыр. 4.000. 1934 г. ц. 1 р. 75 к. пер. 25 к.

Складзен па праграмах пяхотных школ РСЧА. Адпавядае патрабаванням МТПП-33г. Падручнік няпоўнасцю ахватвае пытанні тактыкі пяхоты

але-ж ён змяшчае ўсе пытанні кіравання стралковым узводам у разрэзе тых патрабаванняў, якія прад'яўляюцца курсантам пяхотных школ РСЧА. Не паўтараючы статута, падручнік развівае і абгрунтоўвае статутныя палажэнні. Пры праходжанні курсу тактыкі пяхоты неабходна карыстацца і Статутам пяхоты РСЧА. Можа быць скарыстаны ў якасці дапаможніка і сярэднім начсаставам пяхоты РСЧА.

## VIII. ВАЕННА-ІНЖЫНЕРНАЯ СПРАВА. СУВЯЗЬ

**Вайскавая інжынерная справа для пяхоты.** (Выд. II, перапрацаванае К. С. Бураўцовым). (Дапушчана Цэнтр. Навукова-Выдавецкай Камісіяй пры РВС СССР у якасці падручніка для пяхотных школ РСЧА). Стар. 334 (плюс 1 табліца). тыр. 3.000. 1933г. ц. 3 р. 50 к. пер. 25 к.

Падручнік для курсантаў пяхотных школ РСЧА. Складзен па праграме, зацверджанай УВУЗ'ам. У параўнанні з папярэднім выданнем падручнік папоўнен радам задач, якія аблягчаюць усваенне курсу. Пашыраны раздзел „Элементы абароннай паласы", а таксама ўнесены ва ўсе астатнія раздзелы навейшыя дасягненні тэхнікі ў ваенна-інжынернай справе. Кнігу можна раіць і для каманднага саставу часцей РСЧА.

**АДАМАЎ Ф., КРАСНАШЧОКАЎ С. І РАБАЎ В. Служба сувязі.** Падручнік для пяхотных і кавалерыйскіх школ РСЧА. (Пад рэд. В. Б. Граноўскага). (Зацверджана Камісіяй па падручніках пры РВС СССР у якасці падручніка для пяхотных і кавалерыйскіх школ РСЧА). Стар. 130. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 1 р. 75 к. пер. 35 к.

Падручнік мае 2 аддзелы: І. Сродкі сувязі і II. Арганізацыя сувязі. У першым аддзеле даецца характарыстыка тактычна-тэхнічных уласцівасцей сродкаў сувязі і апісваецца ў асноўных рысах іх будова. Другі аддзел прысвечан службе сувязі ў пяхотных і кавалерыйскіх часцях (узвод, полк) і ў артылерыі (батэрэя, дывізіён) Матэрыял падручніка ілюструецца радам баявых прыкладаў. Кніга можа быць скарыстана і начсаставам пяхоты і конніцы.

## IX. ПАВЕТРАНЫ ФЛОТ. ПЛАНЕРЫЗМ

**АЛЕКСЕЕЎ М. і МАЛІНОЎСКІ П. Кароткія звесткі па арганізацыі ваенна-паветраных сіл.** Стар. 180 (плюс 1 табліца). тыр. 4.000. 1933 г. ц. 2 р. 60 к. пер. 30 к.

**Абучэнне палётам на планерах.** (Метадычныя ўказанні). (Склалі Васянін В. С. і Бародзін В. Г.). Стар. 48. тыр. 3.000. 1933 г. ц. 55 к.

Вопыт і практычныя навыкі інструктарскіх кадраў планерных школ, гурткоў і станцый. Метадычныя ўказанні ў дапамогу работы планерных школ і гурткоў.

Невялікая па аб'ёму гэтая кніжка заключае ў сабе вялікі фактычны матэрыял. У першай частцы яе закранаюцца пытанні першапачатковага абучэння планерыстаў. У другой асветлены пытанні абучэння лунаючаму палёту.

Мову кніжкі і сістэматызацыю матэрыялу трэба прызнаць удалымі.

Кніга карысна і інструктару і абучаючамуся ў планерных школах і гуртках (Распрадана).

**БАСКАКАЎ А. Н. Лятаючая мадэль самалёта.** Арк. $1^1/_{16}$. тыр. 3.000. ц. 30 к.

У даступнай форме, без заграмаджэння тэарэтычнымі данымі ў гетай кніжцы даецца рад простых прыкладаў пабудовы лятаючых мадэлей самалёта.

**Вішнеўскі. Лётчыкі-планерысты.** (Нарыс). Арк. 4,5. тыр. 3.000, (Друкуецца).

## X. ПРОЦІХІМІЧНАЯ І ПРОЦІПАВЕТРАНАЯ АБАРОНА (ППА)

**МАКСІМЕНКА В. Група самаабароны ППА.** (Дапаможнік для начальнікаў і радавога саставу груп самаабароны). Стар. 66. тыр. 4.000. 1934 г. ц. 1 р.

У з м е с ц е: работа групы самаабароны ў час паветрана-хімічнага нападу на населеныя пункты. Матэрыял дапаможніка адпавядае „Кіраўніцтву па баявой падрыхтоўцы начальнікаў і радавога саставу груп самаабароны".

**СЕМЁНАЎ. Проціхімічная абарона.** (Ухвалена Камісіяй па падручніках пры РВС СССР). Арк. 18,5. тыр. 3.000.

**Сяргееў А. С. Тэхніка проціхімічнай абароны ў мота-механізаваных часцях.** Стар. 69. тыр. 3.000. 1933 г. ц. 60 к.

**ТРАМ Б. Ваенна-хімічныя спаборніцтвы.** Арк. $1^1/_2$. тыр. 3.000. ц. 25 к.

Метадычны дапаможнік па правядзенню ваенна-хімічных спаборніцтваў у арганізацыях ТСА. Прызначаецца для нізавых арганізацый ТСАвіяхіма, для вучэбных пунктаў, для школ і ваенна-хімічных атрадаў і каманд ППА.

**ЭЛЬМАНОВІЧ С. Спосабы і сродкі дэгазацыі.** Стар. 71. тыр. 5.000. 1934 г. ц. 40 к.

Апісанне існуючых прыбораў і сродкаў дэгазацыі і іх скарыстання Дапаможнік для хімічных гурткоў і вучэбных пунктаў ТСА.

### Чырвоны марскі флот

**БАКУЛІН і інш. Лінкор „Парыжская комуна".** Арк. 6, тыр. 5.000. (Друкуецца).

**БАКУЛИН и др. Линкор „Парижская коммуна".** (На рускай мове). Арк. 6., тыр. 5.000. (Друкуецца).

Кніга напісана па пастанове ЦВК і СНК БССР работнікамі лінкора „Парыжская комуна". У кнізе даны гістарычныя даныя аб баявым марскім флоце наогул і аб Чырвоным флоце ў асаблівасці, звесткі па класіфікацыі караблёў; падрабязна апісаны паход лінкора з Балтыкі ў Чорнае мора, вучоба і быт асабовага саставу яго.

## XI. АГУЛЬНЫЯ ПАДРУЧНІКІ ВАЕННАЙ СПРАВЫ

### (Для чырвонаармейцаў і для актыву ТСАвіяхіма).

**Ваенная тэхніка.** Падручнік для чырвонаармейцаў, малодшых камандзіраў РСЧА і для актыву ТСАвіяхіма. Арк. 24. тыр. 5.000.

Карысны дапаможнік пры вывучэнні тэхнічных сродкаў барацьбы чырвонаармейцамі і малодшымі камандзірамі ўсіх родаў войск, а ў асноў-

ным пяхоты і конніцы. У змест падручніка ўваходзяць звесткі, неабходныя кожнаму байцу для яго баявой падрыхтоўкі, а таксама рад звестак, якія дапамогуць байцу расшырыць кругазор і больш свядома і з большай зацікаўленасцю засвоіць тэхмінімум, які ён вывучае ў ваенных гуртках.

**ВАСІЛЕНКА М. Баявая служба чырвс армейца.** (Пераклад з IV рускага перапрацаванага выдання). (Зацверджана Камісіяй па падручніках пры РВС СССР. Стар. 108. тыр.). 5.000. 1934 г. ц. 60 к.

**ВАСИЛЕНКО М. Боевая служба красноармейца.** (Перевод с IV русского переработанного издания). (Утверждено Комиссией по учебникам при РВС СССР). (На рускай мове). Стар. 108. тыр. 10.000. 1934 г. ц. 60 к.

Падручнік па тактыцы для чырвонаармейцаў стралковых часцей РСЧА. Кніжка змяшчае іэлажэнне галоўнейшых абавязкаў чырвонаармейца і дае рад практычных указанняў аб тым, што трэба рабіць байцу ў розных выпадках баявой абстаноўкі.

Кніга дапамагае чырвонаармейцу, пад кіраўніцтвам камандзіра, самастойна замацоўваць і расшырыць аб'ём сваіх ведаў і практычных навыкаў. Разам з тым кніга з'яўляецца неабходным дапаможнікам пры прапрацоўцы задач па МТПП. Прастата і даступнасць іэлажэння дазваляюць рэкамендаваць гэтую кнігу для тсаавіяхімаўцаў і для комсамольцаў, якія праходзяць пачатковае ваеннае абучэнне ў сваіх арганізацыях. (Распрадана).

## XII. ВАЕННА-САНІТАРНАЯ СПРАВА

**ЛЕАНАРДАЎ Б.** (праф. Ваеннамедыцынскай Акадэміі РСЧА). **Ваенна-санітарная справа.** Падручнік для нармальных школ РСЧА. (Пад рэд. нам. нач. ВСУ РСЧА Н. І. Тіхаміраваа). (Ваеннасанітарная ўправа РСЧА). (Зацверджан Камісіяй па падручніках пры РВС СССР у якасці стабільнага падручніка для нармальных школ РСЧА). Стар. 178. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 2 р. 50 к. пер. 25 к.

У падручніку даны неабходныя курсанту звесткі аб будове чалавечага цела і яго рабоце і прыведзены ўказанні па зберажэнню здароўя войск і агульныя даныя аб арганізацыі і дзейнасці ваеннасанітарнай службы РСЧА ў мірны і ваенны час.

**БРЫСКІН Б. (д-р). Першая дапамога раненым і паражаным БАВ.** Арк. 2,5, тыр. 3.000. ц. 65 к.

Апісанне баявых атрутных вяшчэстваў і дзейства іх на арганізм чалавека. Неабходныя ўказанні па аказанню першай дапамогі атручаным БАВ і пацярпеўшым ад раненняў і ад найбольш частых на паходзе няшчасных выпадкаў. Кніжка багата ілюстравана. Разлічана на масавага чытача, у першую чаргу на моладзь і актыў Чырвонага Крыжу.

**Гатоў да санітарнай абароны.** (ЦС Т-ва Чырвонага Крыжу). Стар. 14. тыр. 10.000. 1934 г. ц 10 к.

Зборнік палажэнняў і норм сдачы іспытаў на значок „Гатоў да санітарнай абароны", зацверджаных Советам Таварыства Чырвонага Крыжу Чырвонага Поўмесяца 3/І-34 г. (Распрадан).

**ЭЛІАСБЕРГ С. Гігіена паходу і адпачынку.** (Памятка). Стар. 48. тыр. 3.000. 1934 г. ц. 35 к.

Брашура састаіць з двух частак. У першай аўтар расказвае аб хва-

робах, якія больш за ўсё могуць пагражаць байцу ў паходзе і на адпачынку. Другая частка прадстаўляе памятку, у якой каротка ізложаны санітарныя правілы падрыхтоўкі і правядзення паходу. Напісана папулярнай мовай. Разлічана на масавага чытача.

### Праграмы для сангурткоў і для курсаў Чырвонага Крыжу.

Праграма для гурткоў санітарных і ваенна-санітарных ведаў. (Зацверджана Нач. Упр. Ваенна-санітарнай падрыхтоўкі Выканкома Саюза Т-ваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяца 15/VIII-32 г.). Стар. 14. тыр. 10.000. 1934 г. ц. 10 к.

У змесце: Метадычная запіска і праграма заняткаў. (Распрадана)

ПРАГРАМА курсаў начальнікаў санітарных пастоў Чырвонага Крыжу. тыр. 10000. 1934 г. ц. 20 к.

У змесце: Праграма курсаў і палажэнне аб санітарных пастах і санітарных дружынах Чырвонага Крыжу. Асобным дадаткам: прыкладны рабочы план, табель маёмасці санпаста і табель маёмасці сандружыны. (Распрадана).

---

## XIII. ФІЗКУЛЬТУРА

**Другі комплекс „ГПА“.** Палажэнне, інструкцыі і метадычныя ўказанні па значку „ГПА“ II ступені. (Зацверджана Прэзідыумам ВСФК СССР). (Вышэйшы Совет ФК пры ЦВК БССР). Стар. 75. тыр. 5000. 1933 г. ц. 75 к.

Афіцыйныя матэрыялы і метадычныя ўказанні для ўсіх спартыўных секцый па арганізацыі іспытаў на здачу норм па II комплексу. Разлічана на шырокі фізкультурны актыў. З'яўляецца дапаможнікам для кіраўнікоў фізкультурных калектываў і секцый і падручнікам для вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў.

**ЛАВЕЙКА І. Д. Гімнастыка.** Стар. 116. тыр. 3000. 1934 г. ц.1 р. 50к.

Матэрыял для падрыхтоўкі фізкультурнікаў к здачы норм 2-га комплекса ГПА. Кніга з'яўляецца перакладам з другога нанава перапрацаванага рускага выдання. У гэтым выданні змешчаны новыя раздзелы: тэрміналогія, страхоўка і правілы спаборніцтваў па гімнастыцы. Багаты змест кніжкі робіць яе каштоўным практычным дапаможнікам для інструктароў і ўсяго фізкультурнага актыву.

**Цяжкая атлётыка ў БССР.** (ВСФК БССР). (Склаў І. Бык). Арк. $1^1/_2$ тыр. 3000. 1934 г. ц. 25 к.

Першыя ітогі работы секцыі цяжкай атлётыкі (ВСФК БССР). Канцэнтрацыя, апрацоўка і вывучэнне матэрыялаў спаборніцтваў па цяжкай атлётыцы, якія адбываліся ў БССР за 10 гадоў існавання фізкультурнай арганізацыі. (Распрадана).

**За арганізаваны фізкультурны рух у соцыялістычным сектары вёскі.** (Склаў Бык і інш. Уступны артыкул старшыні ВСФК БССР т. Закоўскага). тыр. 4000. 1934 г. ц. 1 р.

Зборнік матэрыялаў па методыцы і арганізацыі работы фізкульткалектываў і пастаноў ЦК КП(б)Б аб фізкультурным руху. Неабходны дапаможнік для шырокага актыву па фізкультурнай рабоце ў вёсцы. (Распрадана).

---

## XIV. РАБОТА ТСААВІАХІМА

**Па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць.** (Рэзалюцыя V пленума ЦС ТСАавіяхіма СССР). Арк. 3,5. тыр. 3000. цана 65 кап.

## ВАЕННА-ТЭХНІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

### („Бібліятэка Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма", „Школьная серыя" і інш.).

**АЛЕКСЕЕЎ Ф. Ваенная тапаграфія.** („Бібліятэка Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма). Стар. 60. тыр. 3000. 1934 г. ц. 1 р. 10 к.

Кароткія запіскі па тапаграфіі, складзеныя ў асноўным адпаведна праграме гуртка ЮПТ. Разлічана на кіраўнікоў гурткоў і на актыў ЮПТ старэйшага ўзросту.

**БАБАЕЎ. Як пабудаваць мангальф'ер.** (Школьная серыя). Арк. 1 тыр. 3000.

**ДРАЗДОЎ І. Ваенная хімія.** („Б-ка Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма). Стар. 68. тыр. 3000. 1934 г. ц. 65 к.

11 гутарак у форме апавядання. Змест гутарак адпавядае праграме гуртка ЮПТ па ваеннай хіміі. Разлічана на кіраўнікоў гурткоў і на ўвесь актыў ЮПТ.

**ЗАНЕГІН. Дзіцячы процігаз (ДП—1).** Арк $1^{1}/_{16}$ тыр. 5000. ц. 20 к.

Як зберагчы і хаваць дзіцячы процігаз і як ім карыстацца. Дапаможнік пры вывучэнні элементарных ведаў па ваеннай хіміі сярод дзяцей школьнага ўзросту.

**ОС ГР. Страляць па-варашылаўскі.** („Бібліятэка Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма). Арк. 1. тыр. 3000. (Друкуецца).

### Праграмы для гурткоў ЮПТ.

Праграма для нізавога гуртка „Юных авіябудаўнікоў". (Ухвалена ЦС Саюза ТСАавіяхім і ЦБ ДКА ЦК УсеЛКСМ). (Выд. II). Стар. 22. тыр. 10.000. 1933 г. ц. 10 к.

Праграма для гуртка Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма па ваеннай хіміі. (Склаў М. Занегін). (Выд. II). Стар. 31. тыр. 10000. 1933 г. ц. 10 к.

Праграма для гурткоў Юных Прыхільнікаў ТСАавіяхіма па сувязі. (Выд. II). Стар. 18. тыр. 10.000. 1933 г. ц. 08 к.

*Дадатак*

## УСІМ ЗАГ. БІБЛІЯТЭК

З выбарачных абследванняў раду бібліятэк выявілася, што бібліятэкі не забяспечаны адпаведнай ваеннай літаратурай: у большасці з іх адсутнічае новая літаратура па ваенных і абаронных пытаннях, літаратура, якая маецца ў дастатковай колькасці.

Гэта гаворыць за тое, што заг. бібліятэк не надалі належнай увагі важнейшаму пытанню забеспячэння бібліятэкі кнігай па ваеннай справе і недастаткова актыўна займаліся пытаннем укамплектавання аддзела ваеннай літаратуры.

Зараз Выдавецтвам Беларускай ваеннай акругі выдадзен рад кніжак для катэгорый падрыхтаванага чытача, слабападрыхтаванага чытача і спецыяльна для школьнікаў.

Бібліятэчнае Упраўленне НКАсветы прапануе ўсім бібліятэкам папоўніць аддзелы ваеннай кнігі літаратурай прыкладаемага спіса з тым, каб бібліятэка магла задаволіць попыт добрападрыхтаванага чытача ваеннай кнігі і разгарнуць самаадукацыйную работу з непадрыхтаванымі ў ваеннай справе чытачамі.

Літаратуру можна атрымаць у магазінах ДВБ, БАКТ-а, КОГІЗа і непасрэдна ў Выдавецтве Беларускай ваеннай акругі, гор. Менск.

Начальнік Бібліятэчнага Упраўлення НКА

*(Богаслаўскі)*



**Узгоднена.**

Нам. Старшыні ЦС АСО БССР

*Данілаў*

## СПІС

### Ваенна-абароннай літаратуры выд. 1934 г. для папаўнення бібліятэк

| №№ п/п | Аўтар | Назва кнігі | Кольк. экз. у біб-цы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | | **Для бібліятэк профсаюзных клубаў, цэнтральных дамоў соцкультуры, сярэдніх і вышэйшых устаноў** | | |
| 1 | | Зброя стралковага ўзвода . . . . | 2 | |
| 2 | | Кіраўніцтва па ваенна-інжынернай справе для ўсіх родаў войск . . | 2 | |
| 3 | | Станкавы кулямёт „Максіма“ . . . | 3 | |
| 4 | | Настаўленне ППА . . . . . . . . | 2 | |
| 5 | | Баявы статут пяхоты, ч. I . . . . | 2 | |
| 6 | | Ваенная тэхніка . . . . . . . . . . | 5 | |
| 7 | СУБОЦКІ і БЕРЛІН | Чырвонаармейскі палітпадручнік (скарочанае выданне) . . . . . | 2 | |
| 8 | ВАРАШЫЛАЎ | Зборнік артыкулаў і прамоў . . . | 3 | |
| 9 | | Урокі чысткі партарганізацыі РСЧА | 1 | |
| 10 | | Закон аб абавязковай ваеннай службе і ільготы ваеннаслужачым, ваеннаабавязаным і іх сем'ям . . . | 3 | |
| 11 | ІВАНОЎ і ГЛЕБЕЦ | Прызыў у РСЧА . . . . . . . . . | 3 | |
| 12 | КІРЫЛАЎ-ГУБЕЦКІ | Сучасная артылерыя . . . . . . . | 2 | |
| 13 | АЛЕКСАНДЭР і КАПУСЦІН | Артылерыя . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| 14 | ДУХОНІН | Падрыхтоўка кулямётчыка-зенітчыка . . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| 15 | | Прывядзенне стралковай зброі к дакладнаму бою . . . . . . . . | 3 | |
| 16 | ЦЫФЕР | Тактыка пяхоты . . . . . . . . . | 2 | |
| 17 | СМІРНОЎ | Тактыка . . . . . . . . . . . . | 1 | |
| 18 | ВЕРЫЧАЎ | Умоўныя знакі ў ваеннай справе . | 3 | |
| 19 | ВАСІЛЕНКА | Баявая служба чырвонаармейца . . | 5 | |
| 20 | ШВАНЕБАХ | Механізацыя і матарызацыя сучасных армій . . . . . . . . . . | 4 | |
| 21 | КОНШЫН | Аўтамабілі „Форд“ мад. А, АА і ЗА. | 2 | |
| 22 | БАКУЛІН і інш. | Лінкор „Парыжская комуна“ . . . | 2 | |
| 23 | АДАМАЎ | Служба сувязі . . . . . . . . . . | 1 | |
| 24 | ЛЕАНАРДАЎ | Ваеннасанітарная справа . . . . . | 2 | |

| №№ п/ц | Аўтар | Назва кнігі | Кольк. экз. у біб-цы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 25 | СЕМЁНАЎ | Проціхімічная абарона . . . . . | 2 | |
| 26 | АРТАМОНАЎ і СУРАНАУ | Арганізацыя стралковага спорта . | 3 | |
| 27 | ЛАВЕЙКА | Гімнастыка . . . . . . . . . . . . | 1 | |
| 28 | | 2-гі комплекс ГПА . . . . . . . . | 1 | |
| 29 | КЛАУЗЕВІЦ | Аб вайне, т. I . . . . . . . . . . | 1 | |
| 30 | КЛАУЗЕВІЦ | „ „ т. II . . . . . . . . . . | 1 | |
| 31 | КЛАУЗЕВІЦ | „ „ т. III . . . . . . . . . . | 1 | |
| 32 | | Інструкцыя арганізацыям ВКП(б) у Чырвонай арміі . . . . . . . . . | 3 | |
| 33 | МАКСІМЕНКА | Група самаабароны ППА . . . . . | 2 | |
| 34 | РАБІНОВІЧ | Гісторыя грамадзянскай вайны . . | 3 | |
| 35 | ЛЕАНІДАЎ | Марксісцка-ленінскае вучэнне аб вайне . . . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| | | **Для бібліятэк—хат-чыталень, калгасаў, соўгасаў, няпоўных сярэдніх школ і роўных ім** | | |
| 1 | | НСС. „Вінтоўка" . . . . . . . . . | 2 | |
| 2 | | Вр. стр. устав РККА. Ружейные и ручные гранаты . . . . . . . . . | 2 | |
| 3 | | НСС—Станкавы кулямёт „Максім" | 1 | |
| 4 | | Настаўленне па ППА . . . . . . . | 1 | |
| 5 | | НСС—Зброя стралковага ўзвода . | 1 | |
| 6 | | Ваенная тэхніка . . . . . . . . . | 2 | |
| 7 | ГУСЕЎ | 16 год на варце Кастрычніка . . . | 2 | |
| 8 | СУБОЦКІ і БЕРЛІН | Чырвонаармейскі палітпадручнік (скарочанае выд.) . . . . . . . . | 2 | |
| 9 | ВАРАШЫЛАЎ | Зборнік артыкулаў і прамоў . . . | 1 | |
| 10 | ІВАНОЎ і ГЛЕБЕЦ | Прызыў у РСЧА . . . . . . . . . | 5 | |
| 11 | КІРЫЛАЎ-ГУБЕЦКІ | Сучасная артылерыя . . . . . . . | 1 | |
| 12 | ДУХОНІН | Падрыхтоўка кулямётчыка-зенітчыка | 2 | |
| 13 | АЛЕКСЕЕЎ і ТОПАЛЕЎ | Выдатны наводчык станкавага кулямёта . . . . . . . . . . . . | 3 | |
| 14 | ГЕЙНРЫХС | Дзействы асобнай гарматы . . . . | 1 | |
| 15 | ЦЫФЕР | Тактыка пяхоты . . . . . . . . . | 1 | |
| 16 | ОГЛОБЛІН і КУШНАРЭНКА | Дапаможнік па выведцы стралковых падраздзяленняў . . . . . . . . . | 1 | |
| 17 | ВЕРЫЧАЎ | Умоўныя знакі ў ваеннай справе . | 3 | |
| 18 | ШЭБАЛІН | Тапаграфія . . . . . . . . . . . . | 1 | |

| №№ п/п | Аўтар | Назва кніг | Кольк. экз. у бібл-кі | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 19 | ГЕРАСІМАЎ | Будова і прымяненне танкеткі . . | 1 | |
| 20 | БАКУЛІН | Лінкор „Парыжская Комуна" . . . | 2 | |
| 21 | ЛЕАНАРДАЎ | Ваеннасанітарная справа . . . . . | 1 | |
| 22 | ЭЛІАСБЕРГ | Гігіена паходу і адпачынку . . . . | 2 | |
| 23 | БРЫСКІН | Першая дапамога раненым і атручаным БАВ . . . . . . . . . | 2 | |
| 24 | ЭЛЬМАНОВІЧ | Спосабы і сродкі дэгазацыі . . . | 1 | |
| 25 | МАКСІМЕНКА | Група самаабароны ППА . . . . . | 2 | |
| 26 | КАЛЕСНІКАЎ | Калгас—крэпасць абароны . . . . | 2 | |
| 27 | АРТАМОНАЎ і СУРАНАЎ | Арганізацыя стралковага спорта . | 1 | |
| 28 | ХУДЗЯКОЎ | Дробнакалібравая вінтоўка ТОЗ №7 | 3 | |
| 29 | ДРАЗДОЎ | Ваенная хімія (школьная серыя) . . | 2 | |
| 30 | АЛЕКСЕЕЎ | Ваенная тапаграфія (школьная серыя) . . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| 31 | ГР. ОС | Страляць па-варашылаўскі . . . . | 2 | |
| 32 | ЗАНЕГІН | ДП-1 (дзіцячы процігаз) (школьная серыя) . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| 33 | БАСКАКАЎ | Лятаючая мадэль самал. (шк. сер.) | 2 | |
| 34 | МІНАЎ | Парашутная справа (шк. серыя) . | 2 | |
| 35 | МІНАЎ | Планерная справа (шк. сер.) . . . | 2 | |
| 36 | БАБРОЎ | Як пабудаваць мангальф'ер (школьная серыя) . . . . . . . . . . . | 2 | |
| 37 | | Праграма ТСА па ваеннай хіміі (шк. серыя) . . . . . . . . . . . | 1 | |
| 38 | | Праграма ЮП ТСА па сувязі (школьная серыя) . . . . . . . . | 1 | |
| 39 | | Праграма ЮП ТСА для авіябудаўнікоў . . . . . . . . . . . . . . . | 1 | |
| 40 | ПАДСОЦКІ | XVII з'езд ВКП(б) і абарона СССР | 1 | |

Заказы на літаратуру даваць Выдавецтву БВА. Менск, Дом друку



